


ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банковае конто:** Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 40 (322) — Нядзеля, 30 верасьня 1956 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 10


# Да пытаньня Беларусаў у Польшчы

У двух папярэдніх нумарах «Бацькаўшчыны» было прысьвечана ладне месца справе арганізаваньня і актывізацыі беларускага нацыянальнага жыцьця ў сучаснай Польшчы. Там-жа былі пададзеныя й некаторыя цікавыя камэнтары гэтага ня менш цікавага й несподзяванага ў ранейшых умовах зьявішча. Пытаньне гэтае мае такую вялікую вагу ў нашым нацыянальным жыцьці ды хавае ў сабе нязвычайна цікавы палітычны аспэкт, што ёсьць патрэбным над ім задзяржыцца шырэй і глыбей.

### Колькі Беларусаў у Польшчы

Як ведама, Беларусы зьлітнай масай пражываюць у Беласточчыне за выключэньнем яе заходніх паветаў, якая зьяўляецца часткай беларускай этнаграфічнай тэрыторыі з нацыянальна сьведамым беларускім насельніцтвам. Яшчэ ў перадваеннай Польшчы тут беларуская нацыянальная сьведамасьць стаяла высока і Беласточчына была адной зь перадавых акругаў у беларускай палітычнай і культурнай дзейнасьці ў больш спрыяльных для беларускага руху гады. У часы-ж найбольшага прыгнечаньня беларускага нацыянальнага жыцьця ў даваеннай Польшчы і прымусовай паланізацыі, у Беласточчыне кіпела ў розных формах беларуская нелегальная дзейнасьць.

Беларускасьць Беласточчыны прызнавалі й бальшавікі ды сур'ёзна лічыліся зь ёю. Гэтак пасьля заняцьця савецкай арміяй у верасьні 1939 году Заходняй Беларусі, яны ейнай сталіцай зрабілі Беласток, у якім і адбылося ведамае «Народнае Сабраньне» Заходняй Беларусі і на якім было аформленае пастанова Крэмля аб прылучэньні яе да БССР.

Пасьля апошняе сьветавае вайны Беласточчына, згодна пастановы Ялтанскае канфэрэнцыі, была перададзеная Польшчы. Масква зрабіла падарак Польшчы, каб потым разам зь ім мець і ўсю Польшчу, падобна як гэта яна зрабіла яшчэ ў 1939 годзе зь беларускай Вільняй, падараваўшы яе Летуве, каб потым апошняе забраць разам зь Вільняй. Беларуска-польская мяжа была вызначана на г. зв. лініі Кэрзона зь некаторымі мадыфікацыямі на карысьць Польшчы.

Апрача Беларусаў у Беласточчыне, як карэннага насельніцтва, вялікая іх колькасьць знаходзіцца на г. зв. «зьвярнутых землях» («земе одзысканэ») Польшчы і невялікая частка на тэрыторыі даваеннай этнаграфічнай Польшчы. У гэтых мясцовасьцях Беларусы ня жывуць зьлітнай масай, але зьяўляюцца расьцярушанымі сярод польскага насельніцтва. Яны тут апынуліся пасьля апошняе сьветавае вайны на моцы ўмоваў паміж урадам БССР і Польскім Люблінскім Камітэтам 9 і 22 верасьня 1944 году аб перасяленьні ў Польшчу жыхароў Беларусі «польскае нацыянальнасьці». Беларускае насельніцтва Заходняй Беларусі, ратуючыся ад паўторнай бальшавіцкай акупацыі ды надзеючыся, што Польшчы ўдасца захаваць некаторыя атрыбуты запраўднай незалежнасьці ад Масквы, шырака выкарыстала гэтыя перасяленскія магчымасьці. У першую чаргу на захад ад лініі Кэрзона хлынулі Беларусы каталіцкага веравызнаньня, якіх і бальшавікі стараліся пазбыцца з Заходняй Беларусі і таму талеравалі іхняе перасяленьне, хоць і ведалі, што гэта ніякія Палякі. Між імі ўдалося перасяліцца на Захад і паважнай колькасьці Беларусаў праваслаўнага веравызнаньня.

Моцна скамплікаванай ёсьць справа ўстанаўленьня колькасьці Беларусаў у Польшчы. Гэтай колькасьці нельга ніякім чынам устанавіць на падставе бесьпасярэдніх статыстычных дадзеных, аб чым будзе мова ніжэй. Затое розныя пасярэднія дадзеныя даюць магчымасьць устанавіць гэтую колькасьць зь вельмі блізкай да праўды дакладнасьцю.

Беларуская газэта ў Беластоку «Ніва» з 17 сакавіка сёлета, даючы справаздачу ізь зьезду Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства, які адбыўся ў Беластоку 26 лютага сёлета, зацеміла: **«На зьезьдзе прысутнічала 400 дэлегатаў ад 143 тысяч беларускага насельніцтва, якое жыве на тэрыторыі Польшчы».** Далей, лёнданскі польскі тыднёвік «Вядомосьці» (Но. 39 за 23. 9. 1956), апіраючыся на інфармацыях польскай краёвай прэсы, падае: **«Беларусы знаходзяцца яшчэ ў зьлітных масах у ўсходняй часьці Беластоцкага ваяводзтва. У беларускіх школах было амаль 5 000 дзяцей, што прамаўляла-б за тым, што Беларусаў ёсьць каля 35 000)** з разьліку, што адно школьнае дзіцё прыпадае на 7 чалавек у пазашкольным веку — Аўтар). **Але ёсьць іх значна болей. Некаторыя запісаліся Палякамі, каб усьцерагчыся высяленьня ў Савецкі Саюз. Адзін з карэспандэнтаў «Трыбуны Люду» пісаў у мінулым годзе, што Беларусаў ёсьць каля 100 тысяч. Іхныя галоўныя культурныя асяродзьдзі, гэта Гайнаўка й Бельск Падляскі, дзе створаныя беларускія ліцэі».**

Ані колькасьць 143 тысячы чалавек, якую падала «Ніва», ані 100 000, аб якіх успамінаюць лёнданскія «Вядомосьці», далёка не адказваюць запраўднасьці. Справа ў тым, што вялізарная колькасьць беларускага карэннага насельніцтва Беласточчыны, каб усьцерагчыся «рэпатрыяцыі» ў 1944—45 гг. у БССР, мусіла запісаца Палякамі, аб чым сьціпла ўспамінаюць і ўспомненыя «Вядомасьці». А дасюль ўсе тыя Беларусы, што ў гэтым часе і пазьней перасяліліся з БССР у Польшчу, як людзі польскае нацыянальнасьці, ясна, былі запісаны Палякамі і такімі-ж фігуруюць і сяньня. Савецкім і польскім камуністычным уладам гэта добра ведама. Аднак ня могуць яны гэтага афіцыйна прызнаць, бо гэта паказвала-б крывадушнасьць іхнай нацыянальнай палітыкі.

Малады беларускі дасьледавальнік у ЗША Мікола Волацiч у артыкуле «Насельніцтва Заходняй Беларусі і яго перасяленьне між сучаснай Польшчай і БССР», зьмешчаным у кнізе 4-ай «Беларускага Зборніка» Інстытуту для Вывучэньня СССР» у Мюнхэне, на падставе пасярэдніх, але важкіх і аўтарытэтных дадзеных уважае, што ўсіх Беларусаў на тэрыторыі сяньняшняе Польшчы знаходзіцца **каля аднаго мільёна 200 тысяч чалавек. З гэтага каля 700 тысяч прыпадае на беларускае аўтахтоннае насельніцтва Беласточчыны і каля 500 тысяч на пераселеных пасьля апошняе вайны.** Калі гэтая колькасьць, устаноўленая Волацічам, і ня зусім дакладная, дык усё-ж яна вельмі блізкая дакладнай. Таму гаворачы аб Беларусах у сучаснай Польшчы, трэба выходзіць з разьліку, што іх жыве там каля **аднаго мільёна 200 тысяч чалавек.**

### Актывізацыя Беларускага Руху й ягоны характар

Да бягучага 1956 году аб Беларусах у Польшчы было глуха. Іх як-бы й ня

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# На шляху хрысьціянскага рэалізму

У вадным з апошніх нумароў польскага лёнданскага часапісу «Głos Konfederacji» (зь якім мы ўжо свайго часу пазнаёмілі нашых чытачоў) знаходзім вельмі цікавы артыкул сп. Стэфана Гонякоўскага «За хрысьціянскі рэалізм». Сьмелыя выказваньні аўтара, зь якімі бязумоўна ня ўсе Палякі змогуць пагадзіцца, заслугоўваюць тымбольш на ўвагу, што такія галасы яшчэ чуюцца адносна рэдка.

Навязваючы да колішняй заявы фон Брэнтано, міністра замежных спраў Заходняе Нямеччыны, які сказаў, што эвэнтуальна Немцам можна афіцыйна адрачыся ад земляў за Одрай і Нісай у замену за злучэньне Нямеччыны, аўтар супастаўляе два нямецкія лягеры ў дачыненьні да гэтага пытаньня: першы — рэалістычны, хрысьціянскі, рэпрэзэнтаваны канцлерам Адэнаўэрам і іхнымі супрацоўнікамі, другі — нацыяналістычны, рэпрэзэнтаваны коламі рэвізіяністых.

Яшчэ перад заявай міністра фон Брэнтано — піша аўтар — сам Адэнаўэр адкрыў Немцам праўду, кажучы, што ўсё-ж Немцы не мяжуюцца з Масквой, але з Польшчай і павінны з гэтым рэальным фактам лічыцца. Падобныя асьветчаньні, кажа аўтар, апіраюцца на этычным рэалізьме, а значыць на рэалізьме хрысьціянскім.

Далей сп. Гонякоўскі пераходзіць ужо да праблемы, якая тычыцца нас беспасярэдня. Паставіўшы пытаньне, які рэальны хрысьціянскі палітычны ўклад могуць унесьці Палякі, каб заслужыць на праўдзівую свабоду, сп. Гонякоўскі адказвае на яго наступна:

«Перадусім мусім адкрыць, што на ўсходзе мяжуемся не з Масквой, а зь Летувой, Беларусяй і Украінай. Немцы праз Адэнаўэра падобнае адкрыцьцё ўжо зрабілі. Мы ўсьцяж яшчэ афіцыйна не зрабілі гэтага.

Далей мусім адкрыць, што этнічнае права аб самавызначэньні народаў забавязвае ня толькі Немцаў у дачыненьні да нас, але таксама нас самых у дачыненьні да Беларусаў, Летувісаў і Украінцаў. Мусім пагадзіцца з фактам, што там, дзе ёсьць бальшыня летувіская, беларуская ці ўкраінская, там ёсьць Летува, Беларусь, Украіна.

Мала таго, мусім пераправіць за тое, што мы права, якога дамагаемся для сябе на Захадзе, не прызнавалі да гэтага часу ў дачыненьні да братніх народаў».

Кажны здаровы розум пагодзіцца, што тут мы маем дачыненьне з праўдзівым хрысьціянскім рэалізмам, безь якога трывалае разьвязаньне суседзкіх праблемаў у сужыцьці народаў немагчымае. Гэтая, простая свайй формай і глыбокая зьместам, думка аўтара зьяўляецца сьвежым і здаровым подыхам у сяньняшняй згнілой і затхлай атмасфэры розных псэўдо- «ізмаў».

Выходзячы з гэтага хрысьціянскага прынцыпу справядлівасьці, мы, Беларусы, нічога больш не жадалі й не жадаем, як толькі таго, што ёсьць нашым, г. зн., каб беларускія этнаграфічныя землі належалі да Беларусі. Нам ня трэба ніякіх выбачэньняў ці перапросінаў за мінулыя крыўды ці сучаснае неразуменьне нашых справядлівых дамаганьняў. Афіцыйнае прызнаньне Палякамі нашых правоў да заходніх беларускіх этнаграфічных земляў магло-б аўтаматычна разьвеяць усялякія затоеныя крыўды мінулага ды прывесьці да цясьнейшага супрацоўніцтва нашых народаў і да супольнага каардынаваньня змаганьня супраць бальшавіцкага гвалтаўніка. Зрэшты, сп. Гонякоўскі паказвае ўсе карысьці, якія будуць выцякаць з братняга сужыцьця народаў усходняе Эўропы. Аб гэтым сп. Гонякоўскі піша наступнае:

«Наш нацыянальны эгаізм — навет пасьля ўпадку Масквы — вядзе да загубы. Затое хрысьціянскі рэалізм у нашай палітыцы, нашая здольнасьць да згоднага братняга супрацоўніцтва дасьць, пасьля ўпадку турмы народаў, агромныя духовыя й матар'яльныя карысьці. Ня толькі ўвядзе нас у абяцаную зямлю свабоды, але дапаможа да шчасьлівага ўзмацненьня й канчатковага замацаваньня дастатку, бясьпекі й міру між людзьмі й народамі добрае волі».

Трэба прызнаць, што ў польска-беларускіх дачыненьнях яшчэ шмат ёсьць цёмных бакоў, якія бязумоўна ня йдуць на карысьць абодвым народам. Аднак падобныя выказваньні, як у дадзеным выпадку сп. Гонякоўскага, сьветчаць аб тым, што лягер прыхільнікаў суседзкага хрысьціянскага сужыцьця расьце й мацнее. А чым больш будзе гэтых прыхільнікаў з абодвых бакоў, тым хутчэй распагодзіцца гарызонт нашых, як цяперашніх, гэтак і будучых узаемадачыненьняў.

**А. Галубіцкі**

# Чырвоны камэльён - Пятрусь Броўка

Сярод беларускіх савецкіх пісьменьнікаў наўрад знойдзецца другі одапісец, які напісаў-бы столькі хвалаcьпеваў Сталіну, як Пятрусь Броўка. Гэты партыйны паэта прымаў актыўны ўдзел у напісаньні вершаванага ліста «правадыру народаў». Ён выслаўляў славалюбнага генэралісімуса амаль у кажным вершы. І ў паэме «Кацярына», якую савецкая крытыка асабліва выхваляе, як ідэйна-мастацкі твор, Броўка таксама не забыўся прыгадаць Сталіна з прыдачай трафарэтных эпітэтаў «мудры», «вялікі», «родны». У гэтым творы аўтарам малюецца прымітыў-абразок Кастрычніцкай рэвалюцыі:

Тою восеньню рабочы
Па краіне ўсёй паўстаў.
Тою восеньню праз ночы
Мудры Сталін працаваў.

I гэтак скрозь і ўсюды, і ў вершы, ці ў паэме, Сталін выступае галоўнай фігурай. Пятрусь Броўка, двойчы ўзнагароджаны сталінскай прэміяй, крычаў зь літаратурных падмосткаў:

Мы з Сталінам крочым наперад!
Мы з партыяй нашай ідзём!

Можна было-б думаць, што Пятрусь Броўка, гэты заядлы сталінец, заўсёды трымаецца сваіх пазыцыяў. Возьмем апошні ягоны зборнік вершаў «Цьвёрдымі крокамі», які вышаў з друку ў 1954 годзе. У гэтай кніжцы мы бачым на першай бачыне верш «Наш дом», які пачынаецца словамі:

Нас Ленін і Сталін усіх гадавалі,
Мы зь імі вялізны наш дом будавалі

Больш аб Сталіну ані слова. Затхлы вецер вее з Крамля, і Пятрусь Броўка, як выжал, насьцярожана трымае нюх на ветры, ён бяжыць па сьлядох новага гаспадара — Хрушчова. Зьбянтэжаны апошнімі падзеямі, у сувязі з дэтранізацыяй Сталіна, Броўка на кароткі час, як быццам-бы змоўк, але потым раптам завыў аб сваёй адданасьці Леніну.

Сёлета ў літаратурна-мастацкім часапісе «Беларусь» № 8 зьмешчана паэма Пятруся Броўкі «Заўсёды зь Леніным». З гэтай паэмы відаць, што аўтар добра прастудыяваў пастановы 20-га зьезду камуністычнай партыі. Пятрусь Броўка піша:

Ня быў я на зьезьдзе 20-м,
Нас многа там быць не магло.
Але, хоць ня меў я мандату,
Ды сэрца ў тэй залі было.

Ня маючы мандату, Броўка ня быў на 20-м зьезьдзе, але сваім прадажным сэрцам зразумеў прамову Хрушчова на закрытым пасяджэньні. Чырвоны хамэльён ужо мяняе сваю ахварбоўку: ён цяпер сьпявае аб ленінскай дружбе, аб ленінскім законе, выцягвае з маўзалею спарахнелы труп Леніна і зь ім крочыць наперад да камунізму.

Гаворачы аб Кастрычніцкай рэвалюцыі, Броўка ставіць галоўнай фігурай Леніна. Ягонае імя ў паэме мы сустракаем аж трыццаць разоў, пры гэтым Сталіна няма і на ўспаміне, як быццам ён ня існаваў.

Мы зь Леніным крочым наперад!
Мы з партыяй нашай ідзём! —

крычыць сяньня Броўка, паўтараючы тыя-ж самыя словы, што казаў некалі пра Сталіна.

Такая ўжо крывадушная натура гэтага паэты. Мы можам быць упэўненыя, што прыдзе час і Пятрусь Броўка пачне з падхалімствам сьпяваць новаму правадыру. Ён будзе сьпяваць аб «гэніяльнасьці» Хрушчова, які паднімае цаліну на пустырох Казахстану і Алтаю крывавымі ахвярамі моладзі, які прымушае сеяць кукурузу на няўродных землях, які асуджае савецкіх будаўнікоў за празьмернасьці ў архітэктуры, які паўстаў супраць культу асобы Сталіна, але разам з тым паступова ўзвышае культ свае асобы.

Чырвоны камэльён Броўка хутка ізноў заварушыцца, і мы пачуем у ягоных вершах:

З Хрушчовам мы крочым наперад!
Мы з партыяй нашай ідзём!

Ад савецкага партыйнага паэты нічога іншага чакаць мы ня можам. Той-жа стары хвалаcьпеў — толькі новаму дыктатару.

**К. Рамановіч**

# Месячнік саду ў БССР

15-га верасьня радыё зь Менску паведаміла аб тым, што ўрад БССР прыняў пастанову аб правядзеньні месячніка саду. У пастанове гаворыцца:

«ЦК КПБ і Савет Міністраў БССР абавязалі абкомы, гаркомы й райкомы КПБ (далей ідзе доўгі пералік міністэрстваў і ўстановаў) арганізаваць у кастрычніку гэтага году масавую пасадку новых і рамонт існуючых садоў у калгасах, саўгасах, пры школах, пры дзіцячых садох, бальніцах» і г. д.

Пры гэтым міністэрству сельскай гаспадаркі БССР загадана дапамагчы ў гэтай справе: адпусьціць калгасам зь дзяржаўных гадавальнікаў адзін мільён сто пяцьдзесят тысяч штук пладовых саджанцаў.

Ці здолее міністэрства зрабіць гэта, пакажа недалёкая будучыня. Можна ўжо быць пэўным, што ня ўсё з пастановы зрэалізуецца. Савецкая прэса ізноў тады пачне крычаць аб марудлівасьці працы, невыкананьні новага заданьня й занядбаласьці садаводзтва.

На Беларусі заўсёды было шмат садоў і ягаднікаў. Напрыклад, слуцкія бэры, і антонаўкі некалі былі ведамыя ды экспартаваныя заграніцу. Цяпер гэтай садавіны на бацькаўшчыне вельмі мала й каштуе яна дорага. А якая прычына гэтаму?

Як ведама, пасьля кастрычніцкай рэвалюцыі сады, якія належалі абшарнікам, бязьлітасна нішчыліся. Некаторыя зь іх перайшлі ў саўгасы і там да апошняга часу стаяць без дагляду. Ня лепшы лёс пазналі й маладыя сады на хутарох. У часы калектывізацыі іх пілавалі на дровы. Па некаторых калгасах яшчэ нядаўна бралі на апал пладовыя дрэвы.

Увосені мінулага году журналісты Жураховіч зьмясьціў зацемку ў «Літаратурнай газэце»: «Шмат якія калгасьнікі, — піша ён, — сякуць яблыні ў сваіх садох, бо на пладовыя дрэвы накладзены высокі падатак. Тут нашыя фінансісты відавочна перагнулі. Крычаць трэба, а аб гэтым чамусьці ня пішуць».

З гэтай зацемкі відаць, што вінаватыя не калгасьнікі, а савецкая ўлада. Сапраўды-ж трэба давесьці да такой распачы калгасьніка, каб ён пачаў высякаць яблыні, якія старанна вырошчваў, прыкладаючы шмат высілкаў і працы.

Савецкая дзяржава ня цікавіцца справай садаводзтва. Ні ў гарадох, ні ў калгасах няма аховы расьліны. Барбарскія дачыненьні да саду выяўляюцца й на школьных сядзібах. Вучні псуюць дрэўцы-саджанцы, а настаўнікі на гэта ня зьвяртаюць увагі.

Але цяпер, нарэшце, схамянуліся. Калі пойдзе гэткае нядбайства далей, дык «сацыялістычны рай» не пабачыць аніводнага яблыка. Трэба ратаваць старыя й гадаваць маладыя сады! Трэба ўзяцца за пасадку садоў. Пачынаецца кампанія — месячнік саду.

Што з гэтага выйдзе, мы ўжо загадзя ведаем. Калгасьнікі, пазбаўленыя собскай ініцыятывы, галодныя, абдзёртыя, зьнясіленыя панявольнай працай, ня вельмі-ж ахвотнікі да райскіх яблычкаў. Яны думаюць больш аб хлебе. Іх ня цікавіць пасадка дрэўцаў ды ягадных кустоў, ад якіх яны ня будуць мець ніякай спажывы.

**Р. К.**

# У 1954 г. на Беларусі

**Ад Рэдакцыі:** «Б-на» 22 ліпеня 56 г. у артыкуле «Зь няволі — у вольны сьвет» паведамляла: «У травені сёлетняга году перайшоў ў Бэрліне ў вольны сьвет старшы сяржант звыштэрміновае службы савецкае арміі, Беларус, Аляксандар Крук».

У верасьні Аляксандар Крук наведаў беларускую грамаду ў Мюнхэне і нашую Рэдакцыю, дзе ён расказаў шмат цікавых рэчаў аб сучасным жыцьці ў Беларусі — з мэтай падаць гэта праз «Б-ну» да ведама сваім суродзічам на эміграцыі. Старшы сяржант А. Крук расказвае:

✳

### Роднае сяло бяз моладзі

Апошні раз на Беларусі быў я ў 1954 годзе, у лістападзе. Адпусьцілі мяне з арміі (у савецкай зоне Нямеччыны) дамоў за добрую спраўнасьць у вайсковым вышкаленьні. Паехаў на 20 дзён адпачынку. Ад 52 году ня быў дома. Бацькі мае жылі ў вёсцы Грычыне Чэрвеньскага раёну Менскае вобласьці, у калгасе «Акцябр» (56 км. ад Менску). Прыехаў і жахнуўся, ды, не дабыўшы да канца, на 17-ты дзень паехаў назад у Нямеччыну. Вёска як вымерла: ні танцаў, ні песьняў, ні моладзі. Пяюць толькі «забалоцкія бабы», як завуць тут жабаў. А яшчэ-ж у 1952 годзе, калі быў дома, хоць крыху весялей было. Людзі нейкага палепшаньня чакалі. Моладзь яшчэ была, песьню можна было пачуць. Цяпер у «Акцябры» застаўся толькі 4 мужчыны. Дый гэтыя працуюць дзень у калгасе, а 2-3 дні на «промысел» ходзяць: «хаўтураць», працуюць дома ці на людзёх — робяць вокны, цабэркі ці выконваюць якія іншыя работы.

Моладзь паразьяжджалася — хто ў горад, хто на цаліну.

У горад папасьці цяжка. На гэта трэба мець пашпарт. Пашпартоў па сёлах людзі ня маюць, і дастаць яго цяжка. Хіба толькі запісацца на цаліну, падпісаўшы кантракт на год часу. Адсюль і «дабраахвотнікі» ў Казахстан бяруцца. Ну, паедзе, адпакутуе, а пасьля з пашпартам усё-ж лягчэй можна ўладжвацца. Ато, бывалые, і на хітрыкі йдуць. Жыцьцё ўсяго навучыць. У Менску, прыкладам, быў аднойчы гэткі выпадак. Прывезьлі групу (чалавек 13) хлапцоў. Іх вэрбавалі ў Карэльскую ССР на лесанарыхтоўкі, а сказалі, што на Данбас паедуць. І пашпарты ўжо далі. Ну, хлопцы згаварыліся, выкралі свае кантракты (калі іхны вартаўнік спаў), парвалі іх, а з пашпартамі ў руках — хто куды.

### Старая чарга ў новым Менску

Едучы дамоў у 1954 годзе, заяжджаў у Менск. Там сваімі крокамі мераў — 400 мэтраў чарга па чорны хлеб. У гэны час прадавалі таксама белую муку, дык там чарга мо 1 400 мэтраў і поўна міліцыі.

Менск быццам і адбудаваны, а чарга па хлеб усёроўна стаіць. Але гэтыя будынкі, што пабудавалі, ўсё-ж не зьмяшчаюць усяго насельніцтва. Некаторыя сем'і жывуць як у сабачых будках — у кватэрах па чатыры квадратовыя мэтры. Акраіны Менску ўсё яшчэ разьбітыя; стаяць з маленькімі саматужнымі домікамі. Места адбудоўвалі нямецкія палонныя. Гэтых на будоўлях кармілі так, што кажны савецкі работнік зайздросьціў ім — усё для прапаганды рабілася. Іх пасьля дамоў паадпускалі.

### Дзіцячыя калёны

На менскіх будоўлях працуюць таксама дзіцячыя калёны, групы моладзі ў веку ад 14 да 18 год, якіх караюць працай за розныя крымінальныя (часамі дробныя) праступкі: украў бутэльку гарэлкі ў ларку, нахуліганіў ці зрабіў штосьці падобнае. Трымаюць такіх у паганых турмах-інтэрнатах і выкарыстоўваюць на розных лягчэйшых работах пры будаўніцтве (пад аховай міліцыі). Асабліва шмат пападае ў гэткія калёны з рамесьніцкіх вучылішчаў, у якіх, між іншага, таксама вельмі суровая, напоўвайсковая, дысцыпліна. З вучылішчаў гэткіх выходзяць, як з турмы: татуіроўкі поўнае цела. Выкалаў вось адзін такі на грудзіне на аднэй палавіне Леніна, а на другой — Сталіна. А пасьля XX зьезду партыі пытаецца: «Што-ж мне рабіць цяпер з гэтым ‚ворагам народу'?»

Прыпомніў вось частушку, што пяюць у ФЗО ў Менску: (пяюць, зразумела, падвыпіўшы, ў сваей грамадзе, бо так небясьпечна):

Фэзэо, фэзэо, каменныя зданія.
Рана ўстанеш, хлеба нет —
Запяеш «Страданіе» . . .

Пяюць таксама й іншыя частушкі, але цяжка прыгадаць цяпер.

### «Скажы, сынок, калі я наемся хлеба?...»

Найгорш жыве вёска. Таму зь яе цяпер так цяжка й выбрацца; хіба толькі на цальнягі або ў Данбас.

Вы пытаецеся, штo-б народ хацеў на месца бальшавікоў? — Хлеба хоча . . .

Прыехаў я ў 54 годзе дадому. Тут меў сябру, Косьця зваўся. Яго забралі ў армію. Я пайшоў да ягонага бацькі, каб дастаць Косьцеў адрас у арміі. Прыходжу, а стары пытаецца: «Скажы, сынок, калі я наемся хлеба?». «Вы ня маеце хлеба?!» — кажу я. «Я ўчора апошнюю казу зарэзаў. Ем толькі бульбу. 12 год хварэю на катар жывата і палячыцца няма як . . .»

✳

Да 52 году я працаваў два гады ў лесапільнай арцелі 1-га Мая на Чэрвэншчыне. Арцель належыць да менскага трэсту.

Калі прыехаў у 54-м дадому, пайшоў з бацькам наведацца.

На арцель для работнікаў заплянавана 800 кілярамаў хлеба на дзень. Кажны атрымоўвае 1,4 кг. (бохан). А чэрвенская пякарня, адкуль прывозяць хлеб, ня можа забясьпечыць навет чэрвенскага насельніцтва, ня то што арцелі. У 5 гадзін канчаецца зьмена, а па хлеб трэба чакаць аж да сёмай гадзіны, і то невядома, ці атрымаеш.

Работнікі выходзяць з працы і ў чаргу. Быў такі выпадак. Малым яшчэ я знаў адну жанчыну. У 54-м яна ў арцелі працавала, апілкі на ваганэтцы ад пілярамы адвозіла. Яна месяцаў 5-6 цяжарная, а ёй пасьля працы яшчэ й па хлеб трэба стаяць у чарзе. У чарзе ніякае спагады, кажны глядзіць сябе; ціснуцца, душацца. Жанчыну гэтую сьціснулі, яна крычаць пачала, вочы на лоб. (Людзі дзічэюць з голаду). Бацька кажа: «Ідзі, вазьмі ёй кавалак хлеба».

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Да пытаньня Беларусаў у Польшчы

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

было там зусім. Аб іх ні словам не ўспаміналa ані савецкая, ані польская камуністычная прэса, відаць, даючы гэтым да зразуменьня, што нацыянальнае пытаньне Беларусаў разьвязанае Масквой правільна й справядліва, г. зн. што на тэрыторыі Польшчы няма Беларусаў зусім, а ўсе яны знаходзяцца ў сваей собскай «незалежнай» БССР. Нам на эміграцыі было толькі ведама, што на тэрыторыі Беласточчыны існуе бліжэй неазначаная колькасьць беларускіх школаў і што ў Варшаве друкуюцца для іх падручнікі ў беларускай мове. І гэта ўсё.

Першай шырэйшай праявай актывізацыі беларускага нацыянальнага жыцьця ў Польшчы быў успомнены зьезд Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Беластоку 26 лютага сёлета, на якім прысутнічала 400 дэлегатаў. Далей, 4-га сакавіка сёлета выйшаў першы нумар воргану гэтага Таварыства тыднёвы часапіс «Ніва». Зь «Нівы» даведваемся, што на тэрыторыі Польшчы, галоўна ў Беласточчыне, існуюць і далей закладаюцца беларускія бібліятэкі, чытальні, клюбы, арганізуюцца гурткі мастацкай самадзейнасьці ды ладзяцца вечарыны. Існуе й разьвіваецца беларускае пачаткавае й сярэдняе школьніцтва, а Міністэрства вышэйшых школаў у Варшаве пастанавіла зь месяца кастрычніка сёлета адкрыць катэдру беларускае філялёгіі пры Філялягічным факультэце Варшаўскага ўнівэрсытэту.

Гэтак выглядае колькасны стан беларускага руху ў Беласточчыне. Але асабліва цікавым ёсьць ягоны бок якасны.

Вось-жа, як відаць з бачынаў «Нівы», галоўным заданьнем газэты, як і заданьнем беларускіх арганізацыяў у Польшчы ёсьць нацыянальнае ўсьведамленьне беларускага насельніцтва й прывіцьцё яму любові да ўсяго свайго роднага. «Ніва» ў нумары за 26. 8. 1956, гаворачы аб ролі беларускага настаўніка, гэткія вызначае яму заданьні:

**«Беларускі настаўнік павінен імкнуцца абудзіць зацікаўленьне да беларускае мовы, як да мовы роднай»**, а **«вучань пачаткавай, сярэдняй школы павінен бачыць усю яе прыгожасьць, багацьце, гістарычную спадчыну»; «Кажны настаўнік... можа зарганізаваць у сваёй школе які-небудзь гурток і ў ім выкарыстоўваць беларускую тэматыку»; «Школьныя бібліятэкі пад наглядам настаўніка павінны разьвівацца ў тым кірунку, каб былі багата забясьпечаны беларускімі кніжкамі»; «Беларускі настаўнік, апрача працы ў школе, павінен быць прапагатарам беларускае культуры, гісторыі . . .»;** заданьнем настаўніка ёсьць **«разбудзіць зацікаўленьне беларускай культурай, песьняй, танцам, вершам, газэтай, кніжкай»** і г. д. і г. п. у тым-жа духу.

Бачым, што ў цэнтры ўвагі пастаўленае не камуністычнае выхаваньне, аб якім зусім глуха, але выхаваньне нацыянальнае, ня прывіцьцё любові да «перадавой культуры старэйшага брата», але культуры роднае беларускае. Чытаем і вачом ня верым: бачыны «Нівы» абсалютна нічым не прыпамінаюць нуднай і манатоннай казёншчыны прэсы савецкае Беларусі. Затое іх можна прыраўняць поўнасьцю да беларускай прэсы й іншых выданьняў БССР часоў г. зв. «наццэмаўшчыны». Зьмяшчаныя нярэдка ў «Ніве» перадрукі зь менскай беларускай прэсы або спэцыяльна для яе напісаныя артыкулы савецкіх аўтараў сваёй стандартнай казёншчынай і адсутнасьцю нацыянальнага зьместу зьяўляюцца прыкрым дысанансам на фоне арыгінальнага лякальнага матарыялу.

Дзе прычына гэтага несамавітага ў сяньняшніх камуністычных умовах зьявішча? Адказ на гэтае пытаньне знайсьці ня цяжка.

### Палітычны аспэкт праблемы

Раптоўнае ажыўленьне беларускага нацыянальнага жыцьця ў Польшчы зьяўляецца згары заплянаванай маскоўскім цэнтрам акцыяй, а ня вынікам г. зв. «адлігі» за зялезнай заслонай, як наіўна ўважаюць успомненыя лёнданскія «Вядомосьці». Аб гэтым найлепей сьветчыць факт, што ўсьлед за Беларусамі такая-ж самая акцыя і дакладна паводля таго самага ўзору некалькі месяцаў пазьней распачалася і сярод Украінцаў у Польшчы. Гэтак 16-17 чэрвеня сёлета адбыўся ў Варшаве зьезд Украінскага Грамадзка-Культурнага Таварыства, на якім прысутнічала 239 дэлегатаў, а адначасна пачаў выходзіць і ворган гэтага Таварыства «Наша слова». Першае зьяўляецца адпаведнікам Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства і носіць ідэнтычны зь ім назоў, а другое — беларускай «Нівы». Так сама паводля таго-ж шаблёну і пад тым-жа назовам яшчэ пазьней было заложанае і «Рускае Грамадзка-Культурнае Таварыства» ды пачаў выходзіць ягоны тыднёвы ворган «Звено». Прыпадковасьці ня можа тут быць ніякай.

Значыцца, Масква лічыла патрэбным дазволіць актывізацыю, беларускага, як і пазьней украінскага, нацыянальнага жыцьця ў Польшчы і дапусьціць нацыянальны і глыбока патрыятычны яго характар. Дык якія-ж прычыны гэтую патрэбу выклікалі,

Крэмль, відаць, прыйшоў да сумнага сьцьверджаньня, што саветызацыя ня пусьціла глыбокіх карэньняў сярод польскага народу, што яна абняла толькі частку карыерыстых сярод інтэлігенцыі й іншых слаёў грамадзянства, а асноўнае насельніцтва ня толькі не паддаецца саветызацыі, але й дае ёй моцны адпор. У сувязі з гэтым і паявіўся плян выкарыстаньня Беларусаў, расьцярушаных па ўсей польскай тэрыторыі, як дывэрсіі супраць польскіх патрыётаў. Бяручы на ўвагу факт, што сярод Беларусаў не зацёрлася яшчэ памяць нягодных да іх дачыненьняў Палякаў перад апошняй вайной, беларускае насельніцтва Польшчы, пры ўмелай палітыцы Масквы ды неразумнай гура-патрыятычнай палітыцы Палякаў, можа лёгка стацца аружжам такой дывэрсіі. Каб здабыць прыхільнасьць і давер беларускага насельніцтва Польшчы, Масква сяньня пастанавіла зайграць на ягоных нацыянальных пачуцьцях ды пайсьці на значныя нацыянальныя канцэсіі на ягоную карысьць.

Гэткае можа быць вытлумачэньне новага савецкага нацыянальнага курсу ў дачыненьні да Беларусаў у Польшчы. Ці ўдасца Маскве выкарыстаць Беларусаў у Польшчы ў якасьці дывэрсіі супраць Палякаў, будзе залежыць ад гэтых апошніх. І то будзе гэта залежыць ня толькі ад Палякаў, што пражываюць у Польшчы, але й ад польскай палітычнай эміграцыі, якая, як ведама, мае не малы ўплыў на настроі ў краі. Калі-ж і надалей польская палітычная эміграцыя будзе, як і дагэтуль, нэгаваць беларускую нацыянальную праблему і ня бачыць самі́х Беларусаў навет у даваеннай Польшчы, а так-жа вызначаць свае будучыя ўсходнія дзяржаўныя граніцы на лініі 1939 году, тады, бясспрэчна, Саветы ў сваіх супрацьпольскіх плянах будуць мець Беларусаў у Польшчы на сваім баку.

### Цераз «беларусізацыю» да русыфікацыі

Масква мае ўжо выпрабаваную й нязьменную нацыянальную палітыку ў дачыненьні да нерасейскіх народаў. Галоўнай і канчатковай мэтай гэтай палітыкі ёсьць русыфікацыя, хаця яе мэтады й тактыка могуць быць розныя ў залежнасьці ад розных абставінаў. Таму ня трэба лішне цешыцца, што Беларусы ў Польшчы атрымалі сяньня значныя магчымасьці нацыянальнай дзейнасьці, якіх ужо ад доўгага часу яны пазбаўленыя ў сваей «незалежнай» дзяржаве — БССР.

У папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» (гл. артыкул «Каб абруселі») ужо алярмавалася аб русыфікацыйных мерапрыемствах сярод Беларусаў у Польшчы. Узапраўды, існуюць ужо выразныя сымптомы, што цяперашняя «беларусізацыя мае быць толькі мостам да пазьнейшай русыфікацыі. Заснаваньне ў Польшчы «Рускага Грамадзка-Культурнага Таварыства» і ягоны тыднёвы ворган «Звено» і маюць служыць русыфікацыі Беларусаў, бо, як ведама, сталага расейскага насельніцтва ў Польшчы няма. Мае асаблівую вымову й той факт, што на катэдры беларускай філялёгіі ў Варшаве беларускія студэнты, апрача беларусаведы, як падае «Ніва», **«атрымаюць таксама пабочную спэцыялізацыю ў галіне расейскае мовы»**, што **«дазволіць шырэй выкарыстаць веды маладых выпускнікоў як у пэдагагічнай, так і ў іншай працы».** Сказана на столькі ясна, што камэнтары лішнія.

Такім чынам, да ўсіх іншых беларускіх нацыянальных праблемаў далучаецца сяньня й актуальная праблема Беларусаў у Польшчы. Беларускія палітычныя дзейнікі ў вольным сьвеце павінны на гэтае пытаньне зьвярнуць асаблівую ўвагу й пастарацца мець на яго ўплыў. **У першую чаргу насьпела цяпер пытаньне дабіцца беларускіх перадачаў у радыё «Вольная Эўропа» і «Голас Амэрыкі», каб гаварыць да нашых суродзічаў у Польшчы і іхную акцыю ськіваваць у пажаданым для нас кірунку.** Гэта адно з найважнейшых чарговых заданьняў нашае эміграцыі.

**Язэп Каранеўскі**

**ЯКУБ КОЛАС**

# Зло не заўсёды - зло

Цэлае лета вісеў жолуд на старым дубе. Бог ведае, як далей, а пакуль ён быў малы, вялікага гора зазнаць яму ня прышлося. Праўда, на яго тады ніхто не зварачаў і ўвагі: якбы яго і на сьвеце ня было, толькі сонейка, выплыўшы з-за лесу, узіралася на яго і песьціла сваім цяплом, бы тая маці. А калі, бывала, яно прыпякала надта горача — любоў часта пераходзіць свае граніцы, — маленькі жалудок хаваўся у цяньку густых лістоў, як пан пад парасонам, і яму заўсёды было добра.

Так і вісеў ён, ні для каго незаметны.

Але-ж урэшце вісець яму абрыдла.

Яно такі і праўда: як-бы там ні было добра, але калі гэтае дабро цэлы век астаецца бяз усякай зьмены, то яно лёгка перастае быць дабром. Гэтак было і з жолудам: захацелася яму другога жыцьця: так і цягнула яго саскочыць з галіны і пакачацца па мяккай зямлі. Ня раз ён ужо парываўся зрабіць гэта. Сказаўшы праўду, трохі зь ветру гарыць сьвет. Бывала, чуць што ўзыйдзе сонца, гэты жартаўнік і штукар — вецер зараз і падкрадзецца, але так, каб ня чуў стары дуб, і пачне баламуціць дубовых сынкоў. Што казаў жолуд, ня ведаю. Болей сьмелы вецер гаварыў грамчэй і вось што ён шаптаў раз жолуду.

— Дурны ты! я пражыў на сьвеце болей вякоў, як лістоў на гэтым дубе, і кажу табе: раз у цябе ёсьць сіла, ты заўсёды знайдзеш спосаб жыць на сьвеце, і ты праб'еш сабе дарогу — што жывое, жывым і застанецца.

А стары дуб тым часам гаварыў так. — Сынок! патрывай яшчэ трошкі, падрасьці, уздужай. О! ты яшчэ ня ведаеш, як цяжка жыць на сьвеце. Паслухай мяне, старога. Ведама — бацька: шкада яму сына. — Ня пускае бацька, — ціханька шаптаў жолуд на намову ветра.

І трэба-ж было, каб гэту гутарку прачула сьвіньня! Раз, ужо зусім пад восень, жолуд убачыў, як пад дуб, рохкаючы, трушком падбегла лапавухая асоба. Углядзеўшыся добра, жолуд абамлеў: на зямлі ляжала шмат такіх-жа, як і ён, жалудоў, і сьвіньня хрумстала іх бяз усякай жаласьці. На тое-ж яна і сьвіньня, даруй Божа грэх. Зь вялікага страху бедны жолуд задрыжаў, вылузаўся зь місачкі і упаў на зямлю у двох кроках ад сьвіньні! Але ўпаў ён якраз у тую яміну, што вырыла сьвіньня сваім уласным доўгім лычом.

І вось што вышла: сьвіньня хацела паесьці жалуды — і памагла вырасьці аднаму жолуду, вырыўшы яму пасьцельку. Жолуд на другі год прарос і стаў дубком, а сьвіньню людзі закалолі, і яна стала мясам.

# Выстагнаўся

## I

Іван Кіслы гараваў усё сваё жыцьцё. Усё гора было ў тым, што ў гэтага гора было яшчэ сваё гора: заўсёды выпадала так, што беднаму Івану ніколі ня ўдавалася выплакацца, выгаравацца, выскардзіцца і гэтым самымы выліць з душы ўсю гаркату, усю боль пахілага жыцьця. І ўсё складалася, як сумыслу, як-бы нейчая злая воля неадступна цягнулася за Іванам і не давала яму здарэньня аблягчыць яго душу. Цягнулася яна з даўных-даўных часоў, з тых часоў, калі Івана яшчэ трудна было адлічыць ад Мар'і, інача́й сказаўшы, калі Іван яшчэ пехатой хадзіў пад стол. Разравецца, бывала, Іван . . . ды каб-жа разроўся, як людзі: толькі скрывіць губы, глядзіш — ужо маці зьнімае хвартух і мабілізуе паскі на Іванаву сьпіну — «ня сьмей плакаць». Дзе тая праўда на сьвеце? Чаму Антось — як пачне плакаць, то кінецца на сьпіну аб зямлю і барабаніць нагамі так, што яму можа пазайздросьціць найпершы барабаншчык? Вазьмі-ж ты! Выйдзе Іван на вуліцу, завядзецца зь кім біцца — што-ж гэта за чалавек, калі ні разу не пабіўся? — паб'юць, пакрыўдзяць Івана. Што-ж бы вы, добрыя людзі, рабілі, каб вы самі былі Іванамі? Вы-б заплакалі і ўсякі-б заплакаў. А чаму не паплакаць Івану? Але-ж няхай папрабуе заплакаць: засьмяюць, заплююць ды ў прыдачу горш наштурхаюць.

Раз Іван, моцна пакрыўджаны, адважыўся зайсьці ў кусты на бераг рэчкі. Прышоў Іван, азірнуўся, сеў на беражок, прыслухаўся. Тут, думаў ён, ніхто яму не пашкодзіць адплакацца за ўсё. Кругом было так сумна, так ціха. Здавалася, усё журылася і настроілася слухаць плач Івана. І нешта ў сярэдзіне, каля самага сэрца, так завіло, так сьціснула, што Іван раптам нагнуў галаву і мімавольна падняў калошы портачак: яму здавалася, што ў яго так многа выцячэ сьлёз, што вада ў берагох ня ўтоўпіцца. І толькі Іван завёў: «А-о-о-а — гы!» — як з таго берагу паказалася з кустоў галава рыбака Сёмкі.

— Гэта ты прышоў пужаць мне рыбу, злодзей ты?! Я табе паскавычу!

Так і засталіся нявыплаканыя сьлёзы.

## II

Іван асірацеў. Астаўся ён адзін на сьвеце, бы тая калатоўка. Быў ён на плытох і ня бачыў, як хавалі бацькоў, так што і тут Івану не ўдалося паплакаць, як людзі. Сёстры яго павыходзілі замуж, адзін брат выбраўся ў Амэрыку, другі паехаў у сьвет шукаць шчасьця і долі. І Іван астаўся адзін гаспадарыць. Ад бацькоў засталася яму хатка, сякая-такая будоўля, надоба, худоба і паўчверці зямлі. Была ў Івана на прымеце й дзяўчына. Праз колькі месяцаў пасьля сьмерці бацькоў ён зрабіў заручыны, а на Сёмуху было назначана вясельле. За тыдзень перад Сёмухай Іван занядужаў. Доўга ён не паддаваўся, перамагаўся і ўсё-ж такі мусіў, бедны, здацца. У сераду перад Ушэсьцем, так пад вечар, Іван залёг. Сьвяжыць Іван, а работа ўся стаіць, рабіць некаму, хата непадмецена, усюды непарадак. А на што ён, парадак гэты? — думае Іван, усё роўна ён памрэ; знайдуцца добрыя людзі і пахаваюць яго. Івану стала горка, як ніколі. Усё жыцьцё, шэрае, невясёлае жыцьцё, прайшло яшчэ раз прад яго вачыма. Што-ж? Ён памрэ. Яго закапаюць, і згніе ён, забыты скора навекі, і нічые вочы не затуманяцца сьлязьмі, як яго будуць несьці на могілкі. І гэта называецца жыцьцё, гэта яго век . . ! Адна толькі сьветлая мінуціна мігалася яму, як адзінокая зорачка ў бязрадасную восень: цяпер яму ніхто не пашкодзіць усім нутром, усею сілаю змучанай душы аддацца смутку і жа-

# У 1954 г. на Беларусі

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

Салдат на водпуску без чаргі можа купляць хлеб. Я пайшоў жанчыну з чаргі вывесьці. Цягну за руку, а яна мяне не пазнала, крычыць, упіраецца. Пасьля выйшла. Пайшоў, прынёс бохан. Дык заплакала. Ледзь у ногі ня кінулася. Яна двое дзяцей яшчэ мае...

Во да чаго бальшавікі народ давялі!

### «Мэдыцына»

Так, савецкая мэдыцына «перадавая», няма чаго казаць...

Калі я прыехаў дадому ў 54 годзе, мяне былі апанаваўшы скулы; увесь карак абсадзіла. Пайшоў я на мэдычную дапамогу. У калгасе мэдсястра нейкая працавала, сьвежа выпушчаная. Прыйшоў, а яна ня знае, што рабіць зы мной. У яе там і лекаў ніякіх няма. Узяла дый памазала жоўтую скулу ёдам. Вярнуўся дахаты, а бацька аж за галаву схапіўся — карак мне разьнесла, чырвоны ўвесь... Тым, якія распытваліся, сказаў, што гэта мяне ў арміі перад ад'ездам салдат «лячыў».

У аптэцы, акрамя соды, нічога й не дастанеш...

### Народ верыць у Бога, а не ў камунізм

Рэлігію перасьледуюць. Цэркваў мала, новых ня будуюць. На гэтыя, што ёсьць, падаткі вялікія накладаюць. Веруючых шмат. У царкву ходзяць і старыя, і маладыя; навет некаторыя камсамольскія актывістыя, хаваючыся, у царкву ходзяць. Ну, пэўна-ж, «клычы» (настаўнікі ці якія актывістыя) як даведаюцца, то прабяруць на сходзе або із школы выкінуць.

Ёсьць цэрквы народныя й дзяржаўныя. Дзяржаўныя — гэта там, дзе сьвятары камуністыя. Ёсьць і гэткія. Але ёсьць і запраўдныя сьвятары.

У 51 годзе на Вялікдзень я сам хадзіў у царкву — за 37 кілямэтраў, у Сьмілавічы. Народ верыць у Бога, а не ў камунізм. Людзей ў царкве было шмат. Транспарту няма, дык пешкам ідуць — хто як можа. Ідуць таксама й тыя, што ня вераць у Бога. Красьці йдуць, есьці ахвота.

Народ сьвяткуе ўсе рэлігійныя сьвяты. Міколу тры дні сьвяткуюць. На работу ніхто ня выходзіць. Народ утрымоўвае сьвятароў. Пра бальшавіцкія сьвяты ніхто ня ведае і ведаць ня хоча. Некаторыя камуністыя хрысьцяць сваіх дзяцей у цэрквах.

Народ жыве й думае пасвойму. Летась яшчэ я атрымаў быў папаўненьне ў роту. Сталі правяраць — з 26 чалавек у 14 на грудзёх — крыжыкі, іконкі, малітвы. Бадай 40 год прапагандай напіхаюць, а бацькі дзяцей пасвойму узгадоўваюць. Унутры ў людзёў няма нічога камуністычнага, савецкага.

### У арміі беларускай кніжкі не дастанеш

Я служыў у Нямеччыне. Уся даступная літаратура толькі парасейску. Калі бацька прыслаў з дому беларускую газэту, дык толькі ў закрытым лісьце. Усякія спробы атрымаць праз біблятэку ці якім іншым спосабам літаратуру ў роднай мове не дадуць ніякіх вынікаў. Усё толькі парасейску. Жаўнеры хацелі-б чытаць на роднай мове кніжкі ці газэты, але нельга...

### Хлеб трэба зарабляць, а ня ў школу хадзіць

Прапаганда кажа, што ўсе маюць найменш 7 кляс асьветы. Брэшуць, я сам маю толькі пяць. Працаваць мусіў ісьці. Маці плакала, выпраўляла ў школу. Бацька пяць год у турме адседзеў за «сацыялістычную маемасьць». Быў здаровы, а вярнуўся, дык ледзь хадзіць мог. Што-ж, я мог-бы пайсьці вучыцца — маці ўсё зрабіла-б, каб памагчы. Але ці выжыла-б яна? А тады й мяне і братоў у дзіцячы прытулак забралі-б і было-б па ўсім. Адтуль ня выйдзеш чалавекам. Таксама і з усімі іншымі. Бацькі на вайне пагінулі, а жыць-жа трэба зь нечага. Моладзь цёмная.

Я служыў у арміі старшынёй. У 1955 годзе атрымаў папаўненьне ў танкавую роту: 26 чалавек з 36-га году. Зь іх толькі два чалавекі мелі 7 клясаў, а іншыя — 2, 3 або 4 клясы.

Прывяду прыклад. Падводжу салдата да партрэту Варашылава, пытаюся: Хто гэта? Ён чытаць ня мог, прасьлібізаваў «е-ф», а далей дагадаўся, што гэта «ефрэйтар». Так і прачытаў мне: «Ефрэйтар Варашылаў». Я мусіў выясьніць яму, што гэта маршал...

### Генэрал «Чорнага Ката» кіруе савецкімі манэўрамі

У чэрвені 1952 году я быў недалёка ад Слоніма на кароткатэрміновым вышкаленьні. У гэны час, у спэцыяльна прыстасаванай для гэтых мэтаў акрузе, таксама ў раёне Слоніма, адбываліся вялікія манэўры Беларускае й Кіеўскае ваенных акругаў. На першы дзень манэўраў, прыблізна каля чацьвертае гадзіны папаўдні, два чалавекі з «Чорнага Ката» (звычайна там гаворыцца «Чорная Кошка»), пераадзетыя ў форму савецкіх жаўнераў, як патрулі, спынілі машыну генэрал-лейтэнанта, камандуючага Беларускай акругай, і пад сілай зброі забралі генэрала й ягонага ад'ютанта з машыны ды з завязанымі вачыма павялі іх у лес. Цераз колькі часін гэтыя партызаны вярнуліся адтуль пераадзетыя ў уніформы двух арыштаваных імі савецкіх ахвіцэраў і на працягу паўтары гадзіны камандавалі манэўрамі. Рабілі ўсё наадварот, але вельмі хітра. Манэўры былі заплянаваныя шырока й адбываліся з войстрай зброяй, як на фроньце. Вынікі пераблытанае акцыі далі сябе зараз-жа адчуць. Машыны не спраўляліся вазіць у санчасьці раненых і пабітых ці падушаных. За паўгадзіны ўсе санчасьці былі перапоўненыя. 15% асабовага складу — сяржантаў, салдат і ахвіцэраў — выбылі із строю. Баяздольнасьць вялізарнае вайсковае адзінкі была значна пашкоджана. Характэрна, што ў часе, калі генэрал «Чорнага Ката» камандаваў манэўрамі, ён прыймаў таксама, ня выходзячы з машыны, рапарты падпарадкаваных яму высокіх ахвіцэраў.

Але пасьля здарылася непрадбачаная рэч. У часе наступу танкаў і пяхоты, адзін жаўнер, бягучы побач цяжкога танку ІС-3, напаў нагою ў траншэю. Сьцены траншэі не датрымалі цяжару танку, і жаўнеру прыдушыла бярвеньнямі нагу. Далей ісьці ён ня мог. У гэты час пад'ехаў галоўнакамандуючы на машыне і, бачачы параненага жаўнера, узяў яго з сабой, пасадзіў ззаду, каб адвесьці на санітарны пункт. Жаўнер, седзячы ззаду з аўтаматам у руках, заўважыў адну адзіную рэч. Галоўнакамандуючы, даючы загады праз радыё, адначасна фатаграфаваў перад сабой усё з фотаапарату, павешанага на грудзіне. Гэта жаўнеру здалося падазроным, і ён папрасіў ссадзіць яго, кажучы, што ягоная санчасьць ужо зусім блізка. Толькі вылезшы з машыны, ён даў сэрыю з аўтамату. На сыгнал зьбегліся жаўнеры й ахвіцэры. Пазналі. Генэрал «Чорнага Ката» паставіў умовы: адпусьцяць іх, і яны вернуць савецкага генэрала. За імі йсьці ніхто ня мае права. Савецкія ахвіцэры згадзіліся. І праўда, іхны генэрал вярнуўся неўзабаве, а тыя з «Чорнага Ката» зьніклі, як пад зямлю. Дарма абкружвалі машынамі й абшукоўвалі тое месца, дзе яны зьніклі — нікога там не знайшлі.

Жаўнеры доўга разьбіралі міжсобку гэтую дзіўную падзею.

⁕

Прадстаўнікі беларускае сэкцыі радыя «Вызваленьне» зрабілі былі інтэрв'ю з былым старшым сяржантам савецкага войска для перадачы на Беларусь. Адказваючы на пытаньне аб магчымасьцях вызваленьня нашага народу й бацькаўшчыны, ён сказаў: «Вызваленьне бацькаўшчыны ад камунізму выграе тады народ, калі будзе разумець, за што ён змагаецца, за чые правы. Наш край будзе свабодны, калі людзі, якія знаходзяцца пад лапай камунізму, будуць сільныя духам».

⁕

...На стале ляжыць сьпісаная й пачыркаsuccessfully картка паперы. На ёй — лікі, паасобныя словы, фрагмэнты думак — нявымушаны адбітак маленькае частачкі людзкога нутра. У ніжнім правым розе карткі можна разабраць словы: «Беларусь мая, бацькаўшчына мая, я цябе пакінуў у маладосьці сваёй. Бацькаўшчына, я цябе палюбіў больш за сябе, але ненавісьць да валадароў тваіх мяне змусіла йсьці ў той край, дзе я шчасьлівы»...

Словы гэтыя напісаў Аляксандар Крук з Чэрвеншчыны.

# Крэмлёўскі каляніялізм

**Ад Рэд.** Правільнае разуменьне сутнасьці Савецкага Саюзу й расейска-бальшавіцкае палітыкі ахоплівае штораз шырэйшыя колы грамадзтва ў заходнім сьвеце. Ніжэй зьмяшчаем пераклад артыкулу, які зьявіўся ў амэрыканскім часапісе „The Providence Sunday Journal“.

☆

Гэтымі днямі мы чуем шмат аб жахах каляніялізму, асабліва-ж аб каляніялізьме ангельскім і францускім. Суэская афэра ўзбудзіла яшчэ больш такія гутаркі, і як звычайна, Савецкі Саюз атакуе найвайстрэй.

У гэтым няма нічога нязвычайнага. Няма чаго дзівіцца, што Савецкі ўрад кіруе найбольшай каляніяльнай імпэрыяй сьвету, выдае сябе за абаронцу малых народаў, услаўляе сувэрэннасьць і прынцыпы самавызначэньня, абвінавачваючы Захад у каляніяльнай экспляатацыі.

Інакш кажучы, мы ведаем зь нядвузначных выказваньняў Леніна й Сталіна ды зь дзеяньняў Мікіты Хрушчова, што хлусьня зьяўляецца ўлюбёнай прыладай крэмлёўскае палітыкі.

Але запраўды дзіўным зьяўляецца тое, што ў шмат якіх адукаваных колах гэтай хлусьні вераць, ці прынамся вераць напалавіну ды дазваляюць ёй бесьперашкодна пашырацца.

Спадары Хрушчоў і Шапілаў маюць поўнае права крытыкаваць брытанскую палітыку ў адносінах да Эгіпту. З другога боку, Ангельшчына мае права чакаць адказу на іхную крытыку ад тых, хто ведае ці павінен быў-бы ведаць аб маскоўскім каляніялізьме — пачынаючы Крышна Мэнонам ды канчаючы Далесам. Але Хрушчову й Шапілаву ніхто не адказвае і савецкаму ўраду ўсё яшчэ дазваляюць прыкідацца перадавым носьбітам антыкаляніялізму. Чаму?

Справа тут мусіць у моры. Ня лічачы аднае спробы на ціхаакіянскім ўзьбярэжжы, Расея ніколі ня шукала сабе калёніяў за морам. І ў гэтым некаторыя бачаць вялічэзную розьніцу. Навет не памачыўшы ног, Расейцы здабылі вялізарную шматмоўную імпэрыю, заўсёды кіраваную зялезнаю рукою з Масквы, а часта й тэрорам, ніколі пры гэтым ня будучы абвінавачанымі ў каляніялізьме.

Прыкладам, Маскве лёгка атакаваць Ангельцаў за іхную палітыку ў Кеніі, у той час, калі нікому й ня ўздумаецца папытацца: «А Расейцы на Каўказе?»

Мы ня зьбіраемся пачынаць дыскусіі аб добрых і дрэнных баках каляніялізму, аб разумнасьці й неразумнасьці былое й цяперашняе заходняе каляніяльнае палітыкі. Мы проста прыгадваем пэўныя факты, аб якіх усе і ў Вашынгтоне і ў Нью Дэлі, павінны памятаць, калі сядзяць за адным сталом з Расейцамі, дыскутуючы над упарадкаваньнем сучаснага сьвету. У XIX-м стагодзьдзі Расея, як і Ангельшчына, была вялікай каляніяльнай дзяржавай. Падчас Першае сусьветнае вайны і ў часе рэвалюцыі Расея часова згубіла свае калёніі. Цяпер Ангельшчына, па сваёй добрай волі, не зьяўляецца больш вялікай каляніяльнай дзяржавай — у той час як Расея заняла амаль усе тэрыторыі былое царскае імпэрыі ды дадала да іх іншыя, і ўсё яшчэ кіруе імі з Масквы рукою тырана.

У той час як Ангельшчына, будучы малым абтокам, здабыла сабе імпэрыю, плаваючы па цэлым сьвеце, Расея зда-

(Заканчэньне на 4-тай бачыне)



Бярэзвач у Дзісьненшчыне — Із збораў д-ра Гоція

лю; хоць цяпер адплача ён усё гора жыцьця, адстогне ўсю боль: ласьне чалавек ня мае права хоць на адну мінуту, сьветлую мінуту, у жудаснай імгле цёмнага жыцьця?

Іван паправіўся на пасьцелі, зьмяніў палажэньне свайго цела і абвёў паглядам хату. І толькі што ён прыгатаваўся застагнаць, як на парозе паказалася фігура яго маладой. «І хто яе прасіў сюды? Чаго яна тут?» — падумаў Іван і нахмурыўся.

— Галубок ты мой! Што ты выдумаў хварэць? — жаласьліва спытала яго Магда.

— Нядобра мне, Магда. Мусіць і я пайду за бацькамі, — сказаў Іван. Яму самому так горка стала ад сваіх гэтых слоў, што сьлёзы гатовы былі самі паліцца з вачэй.

— Ну, што ты выдумляеш? Паправішся Іванка, — і Магда прылажыла руку да лобу Івана. Яшчэ большы жаль падшыб Івана. Хіба ўзяць ды заплакаць? Зараўсьці на ўсю хату? Не! падумае, што ён — нюня, плаксівая баба; яшчэ і замуж не захоча пайсьці. А боль так і ходзіць па ўсім яго целе і яму, Івану, так хочацца застагнаць. «Ці застагну, ці не?» — думае Іван. «Ой, скарэй-бы яна йшла да дому!»

— Мне, Магдачка, ня так ужо і кепска, — пачаў разважаць Іван Магду: — паляжу трохі і ўстану.

— Вось маладзец! — сказала Магда і нагнулася, каб пацалаваць хворага. Дрож прабегла па целу Івана, яму стала надта прыемна. Ды Іван ахамянуўся: гэтак і ахвота пройдзе стагнаць і аддацца смутку.

— Можа-б табе, Іванка, спарыць гарнушачак малака?

Іван заматаў галавою і павярнуўся на другі бок.

Магда колькі мінуцін пасядзела маўчком, як-бы раздумаваючы над тым, — узлавацца, ці не. На ўсякі выпадак яна надзьмула губкі і насупіла крыху бровы. Іван незаметна павярнуў галаву і зірнуў на яе адным вокам; не — ня выпадае так рабіць. Не адварочаваючыся, Іван падняў руку і палажыў на плячо Магдзе. Гэтага было даволі, каб Магда зьмякчэла.

— Паляжы, саколік, а я прыбяру крыху ў хаце, — і, узяўшы венік, яна стала падмятаць хату, рабіць парадак, стаўляючы кажную рэч на сваё месца, а бедны Іван увесь аж кіпеў. Яму раптам зрабілася так нядобра, так заламала яму косьці, як-бы хто цісную яго абцугамі, аж ён скрыгітаў зубамі, каб стрымаць стагнаценьне, падкорчваў і выпростваў ногі, варушыўся і пакутаваў, як пасолены мянёк. А Магда так павольна варушылася, як-бы і ня думала ісьці да дому. Часамі выходзіла яна ў сенцы ды зараз-жа йзноў паказвалася ў хаце. А Іван, чуць толькі яна выйдзе, таропна ўглядаўся і прыслухаўся, як далёка адышлася Магда, каб застагнаць хоць адзін разок, і ніяк не ўдавалася.

— Божа мой! Што яна робіць зы мною? Скарэй-бы пайшла ўжо адгэтуль — не цярпелася Івану.

— Ну, Іванка, бывай здаровы...

Іван узрадаваўся на момант, ды зараз-жа яшчэ горш апаў духам, як Магда скончыла гаварыць:

— Ідзе сюды мама.

Сказаўшы гэта, Магда борзьдзенька пацалавала яшчэ раз Івана, прыгнула галаву і ціхачом шмыгнула за парог, на задворкі, каб не спатыкацца з маткай, і пашла дамоў.

— Эй, малады, малады! брыдка! Праз тры дні вясельле, а ён расьцягнуўся, як навой! — громка, на ўсю хату, забарабаніла Настуля, Магдзіна маці.

— Што ў цябе баліць, Іванка?

— Нічога, — буркнуў сярдзіта Іван.

— Дык чаго-ж ляжыш?

— А што-ж мне рабіць? скакаць?

— На вясельлі скачы, а цяпер ачунівай. Пакажы, сынок свой лоб. — Іван злосна заварушыўся, лёг на сьпіну і выставіў лоб.

Старая Наста прылажыла руку на лоб, потым з боку, потым з другога.

— Трохі ёсьць агонь, але нічагутка, глупства. Гэта табе зь ветру пашкодзіла. Вось я зараз напару ліповага цьвету з чаборыкам, вып'еш, прапацееш і пройдзе.

— Я і так ужо пацею, — адазваўся хворы.

— Ну, гэтага мала: трэба, каб спацеў ад зёлак, — стаяла на сваім Наста.

Бачыць Іван, што тут нічога ня зробіш.

— Нічога мне ня трэба. Дайце мне паляжаць спакойна і ўсё пройдзе.

— Хто-ж табе не дае ляжаць? Ляжы сабе, а лякарства я табе ўсё-ж такі дам.

— Ведаеце што, — пусьціўся Іванка ў хітрыкі: — Мне так заманулася гарэлкі, што здаецца, каб выпіў чарачку, то зразу ачуняў-бы. Каб яе сказаць Магдзе, няхай-бы прынесла мне кручок.

— Гарэлкі зажадалася, кажаш?

— Ой, як хочацца!

— Ну, то яна напэўна паможа. Калі хворы чалавек моцна хоча чаго, то тое памагае. Я помню, мой Андрэй хварэў на тыфус. Стаў крыху ачуніваць. Зажадалася яму хлеба, як табе, вось, гарэлкі. А дактары — Божа барані есьці чорны хлеб. Я мусіла хаваць ад яго хлеб, хоць ён і стары, мой Андрэй, але хворы горш малога. Раз ён устаў ціханька ўночы, зайшоў у камору і чуць-што ня цэлы бохан вытрубіў, і што-ж ты думаеш? Як бачыш ачуняў... Ну, я пайду.

Счакаўшы крыху, Іван падняўся, падышоў да вакна — нікога няма. Тагды Іван паваліўся на пасьцель, накрыўся коўдраю, потым нагамі сьцягнуў яе зь сябе, схапіўся за бакі.

— Ой! ой! ой! о-е-ё-ё-й заойкаў, застагнаў Іван і сам ня верыў гэтаму шчасьцю. Стагнаў ён доўга, стагнаў на ўсе лады і галасы: то высака і тонка, то нізка і тоўста, то каротка, адрывіста, то працяжна і пявуча; пры гэтым ён варочаўся, корчыўся так, што зубамі мог дастаць свае калені, то выцягваўся, колькі дазвалялі яму скура, жылы і косьці.

А як перастагнаў усё, то пачаў высьпёваваць свае стогны на манер песьні «Соца ўсходзіць і заходзіць».

— О-о-о-ей! о-ё-й — да!

— Вось табе і хворы: ляжыць сабе ды сьпявае, — сказала Настуля, пераступіўшы з Магдай парог хаты. У хвартуху ў яе быў гарачы імбрычак зь зёлкамі і паўкварты гарэлкі.

— Выстагнаўся, дык і паправіўся, — сказаў усьмяхаючыся Іван.

# Француз аб СССР

**Ад Рэдакцыі:** Перадрукоўваем у скароце, за газэтай «Нью Ёрк Таймс», артыкул ведамага амэрыканскага журналістага Сульзбэргера.

✳

Выдатны вобраз ненармальнага разьвіцьця савецкае эканоміі, апрацаваны ў Францыі, распаўсюджваецца цяпер шырока па Эўропе. Гэты аналіз быў зроблены Андрэ Філіпам, прафэсарам эканоміі й былым міністрам фінансаў. Філіп наведаў Савецкі Саюз летась увесну з дэлегацыяй францускіх сацыялістых. Яны падарожнічалі шмат, і правялі 20 гадзін, дыскутуючы аб надзённых праблемах ізь сябрамі Прэзыдыюму ЦК.

Філіп адцеміў, што ўрэшце ў Савецкім Саюзе распрацоўваюць паважную статыстычную сыстэму. У канцы гэтага году, кажа ён, будзе апублікаваны абшырны статыстычны зборнік. Ужо цяпер абвешчаныя даволі дакладныя дадзеныя, якія расьсяваюць некаторыя хвальшывыя ўяўленьні. Ён, прыкладам, адзначае, што насельніцтва Савецкага Саюзу складае толькі 200 мільёнаў 200 тысяч — шмат менш, чымся раней агульна прыняты лік 220 мільёнаў.

Хрушчоў, як і Сталін, усё яшчэ ўкладае вялічэзную частку дзяржаўнага даходу ў цяжкую прамысловасьць. Філіп кажа, што 21% чыстага гадавога даходу ўкладаецца назад кажны год ў цяжкую індустрыю.

Філіп лічыць, што ў выніку гэтага СССР можа асягнуць узровень Задзіночаных Штатаў у вытворчасьці сталі каля 1970 году. Аднак, навет калі інвэстыцыі ня зьменшацца — хоць зьменшаньне іх больш як праўдападобнае з прычыны крытычнага адставаньня земляробства — на думку Філіпа трэба 40 год, пакуль савецкі агульны прамысловы патэнцыял прыблізіцца да амэрыканскага.

Францускі навуковец быў зьдзіўлены вялікаю колькасьцяй спэцыялістых, што выходзяць з унівэрсытэтаў. Ён кажа, што ў мінулым годзе 800 тысяч асобаў атрымала дыплёмы лекароў ці інжынераў, ды яшчэ 50 тысяч — дыплёмы біялёгаў.

Філіп заўважыў вялікі кантраст паміж новымі будовамі й абсталяваньнем, ды абыякавасьцяй, зь якой зь імі абыходзяцца. Нядаўна збудаваныя будынкі часта маюць плыткія, нятрывалыя фундаманты. Дамы трэскаюцца, прылады іржавеюць ужо год пасьля іхнага выпуску.

Страшэнная бюракратыя затрымоўвае навет найбольш неабходныя вытворчыя й рынкавыя працэсы. Францускі вучоны бачыць прычыну гэтага ў даўгіх перамовах паміж міністэрствамі. Асабліва кінулася яму ў вочы паважнасьць палажэньня ў земляробстве.

Масква спадзявалася, што ўраджай у 1955 годзе будзе на 55—60% большы, чымся ў 1950 годзе. Аднак ён пабольшыўся толькі на 29% — ня гледзячы на тое, што пасяўная плошча павялічылася на 23 мільёны 500 тысяч гэктараў, гэта значыць на 25%.

Бяручы 1913 год за базу 100, Філіп цьвердзіць, што прадукцыя збожжа на галаву насельніцтва паднялася ў 1955 годзе толькі да 108. Колькасьць мяса на асобу зьніжылася да 79,9, малака — да 73,1, яец — да 91,7. У 1929 годзе налічвалася 68 мільёнаў галоваў рагатае жывёлы; цяпер налічваецца толькі 67 мільёнаў. У 1929 годзе прыпадала адна карова на 5 асобаў; цяпер адна карова прыпадае на 9 асобаў.

Гэткім чынам, тады як савецкая прамысловая вытворчасьць каркаломна падымаецца, карміць гэтую супэрдзяржаву стаецца што раз цяжэй. Філіп выясьняе гэта тым, што сяляне проста-ткі не зацікаўленыя ў працы для калгасаў.

Ён кажа, што амбітны плян Хрушчова асвоіць вялізарныя цалінныя абшары ў Сібіры праваліўся, хоць туды паслалі 85% усіх трактароў; сялянаў, якія дабраахвотна туды едуць, звальняюць ад вайсковае службы.

Францускі навуковец лічыць, што рэжым больш ня можа, як гэта рабіў Сталін, весьці палітыку, супярэчную інтарэсам сялянства. Армія, якая складаецца ў бальшыні зь сялянаў, гэткае палітыкі ніколі не дазволіць.

Філіп прыходзіць да высnаву, што савецкае грамадзтва знаходзіцца цяпер у пераходным стане. Ён прадбачвае навет, што рэжым будзе прымушаны зрабіць зьмены ў камуністычнай дактрыне.

Бальшавіцкая партыя застаецца й надалей усемагутнай элітай, упрывілеяванай «рэлігійнай» кастай. Філіп цытуе словы свайго францускага калегі-сацыялістага, які ў гутарцы з Расейцамі сказаў ім: «У Францыі мяне лічаць заядлым антыклерыкалам. Але я нідзе ня сустрэў такога татальнага клерыкалізму, як у вашай краіне».

Філіп сьцьвярджае, што дэмакратычная эвалюцыя дала-б куды лепшыя вынікі, і каштавала-б менш ахвяраў у жыцьцях і матарыяле, чымся кастрычніцкая рэвалюцыя.

Ён паказвае, што жыцьцёвы ўзровень падсавецкага насельніцтва страшэнна нізкі. Хрушчоў сам прызнаецца, што 80% вясковых хатаў ня маюць ні электрычнага сьвятла, ні бягучае вады. Паміж 1913 і 1950 годам, рэальны індывідуальны даход у Савецкім Саюзе падняўся толькі ад 100 да 123,6. На працягу гэтага-ж часу, у Задзіночаных Штатах Амэрыкі ён падняўся да 308.

Хоць Філіп адзначае, што ўзровень дабрабыту ў Францыі шмат ніжэйшы, чымся ў Амэрыцы, ён прыгадвае адзін эпізод: «Калі я запрапанаваў наладзіць абменьваньне савецкімі й францускімі працоўнымі, Хрушчоў адказаў: „Таварыш Філіп, вы хітры чалавек. Вы хочаце пастабіць мяне ў нязручнае палажэньне. Вы-ж ведаеце вельмі добра, што жыцьцёвы ўзровень у вашай краіне непараўнальна вышэйшы за наш"».

# Сын заступніка міністра — апякун менскіх зладзеяў

Аб хуліганстве ў СССР савецкая прэса апошнім часам піша даволі шмат. Найчасьцей выцягваюцца на верх дробныя выпадкі — дробныя ў тым сэнсе, што закранаюць асобаў з «дробных» сацыяльных пластоў — мяшчан, работніцкую моладзь ці так якіх-небудзь бадзяк.

Аднак карэньне хуліганства, разбэшчанасьці — проста маральнага раскладу новае зьмены калішніх сьветак і тварцоў кастрычніцкага пучу — ўрасьлося ня толькі ў зьдзірванелыя ад галечы пласты. У гэтым дачыненьні дзеіць закон простае прапорцыі: чым вышэй уверх па сацыяльнай драбіне, тым прадоньнейшая дрыгва крымінальнага злачынства й разбэшчанасьці.

Там, дзе няма сілы аб'ектыўнага закону, — ёсьць сіла займанага становішча, сіла бюракратычнае самаволі, сіла бяспраўя. Там, дзе ёсьць культ асобы, — ёсьць адначасна й культ касты, фактычна — культ **асобаў.** Культ гэты становіцца асноўным і адзіным модусам людзкіх дачыненьняў: міністры з рабскай пакорай гнуць сьпіны перад дыктатарам (групай дыктатараў), а грамадзяне — перад пасланцамі ці наймітамі дыктатуры на нізох. Сьмерць дыктатара (аднае асобы) ня можа зьмяніць асновы гэткіх дачыненьняў — гэта пад сілу толькі такой стыхіі, як рэвалюцыя.

✳

Маскоўская «Комсомольская Правда» ўздумала была 15 жнівеня сёлета пагаварыць «Яшчэ раз аб плесьні...» Ахоўнікі бальшавіцкае маралі пастанавілі выцягнуць на дзённае сьвятло — малюсенькую частку працэнтаў кастрычніцкае рэвалюцыі, зладзеяў і распусьнікаў абодвух полаў — прыплод бальшавіцкіх міністраў, ахвіцэраў МВД і іншых партыйных бонзаў...

Слова, сказанае ў Маскве, мусіць быць паўторанае ў Менску — тым больш, што з крадзежай, разбоем і бяспраўем тут справа далёка ня лепш — наадварот...

✳

«Праз угодліва сагнутыя сьпіны...» — завецца ў камсамольскай «Чырвонай Зьмене» з 5 верасьня артыкул, у якім урэшце, пасьля дзясяцігодзьдзяў маўчаньня было сказана пару слоў галасна.

Гісторыя крымінальная. Аўтарам ле — нейкая Владзімірава зь Менску. Галоўны герой гісторыі — Уладзімер Цімашэнка, ён-жа камсамолец, студэнт і, галоўнае, — сын намесьніка міністра нутраных спраў БССР па міліцыі. Іншыя дзеючыя асобы: менскія зладзеі, прайдзісьветы, злачынцы, працаўнікі й начальнікі розных міліцыйных і судовых установаў, пракуроры ды іншыя апякуны. Дзея адбываецца ў Менску (галоўным чынам уночы) — па рэстаранах і цёмных закутках.

✳

Нейкая Ляля Табакіна, пад наглядам свайго мужа й маладога Цімашэнкі, падпаіла й абакрала грамадзяніна. Справа аднак не ўдалася, і Ляля апынулася ў міліцыі. Пасьля гэтага мужык зладзейкі і сынок заступніка міністра, камсамолец Уладзімер Цімашэнка, распрацавалі плян ратавальнае акцыі. Далей чытайма ў газэце:

«Згодна з гэтым плянам Уладзімер накіраваўся ў гарадзкі аддзел міліцыі. Вось як ён сам расказвае аб гэтай візыце:

«— Я прыйшоў, назваў сваё прозьвішча, мяне ветліва прынялі, запрасілі сесьці. Папытаўся, за што пасадзілі Лялю. Мне адказалі, што яна абрабавала грамадзяніна.

— А чаму вы цікавіцеся ейным лёсам? — папыталіся ў мяне.

— Мяне прасілі ейныя родныя... Учора я быў разам зь ёю...

Апошнія словы аказалі нязвычайны ўплыў на працаўнікоў міліцыі. Гэта-ж ня жарты — сын намесьніка міністра замешаны ў такой няпрыгожай справе! І Цімашэнка не памыліўся. Лепш «замяць» справу, пастанавілі ў міліцыі. Лялю адпусьцілі...»

Быў падобны выпадак ужо й раней. Табакін украў самакат... («Чырвоная Зьмена»:) «Яго затрымалі, зрабілі дома рэвізію, знайшлі яшчэ адзін самакат.

— У каго ўкраў? Чый самакат?

Фамільярна падміргнуўшы працаўніку міліцыі і пагардліва скрывіўшы рот, Табакін прысьвіснуў:

— Памыляешся, дарагуша. Ня ўкраў, а купіў. І ведаеш у каго? У сына Цімашэнкі. Ага, таго самага, вашага начальніка. За дзьвесьце рублёў...

Сын Цімашэнкі пацьвердзіў. Я, маўляў, калісьці пазычаў у Табакіна грошы і ў лік доўгу аддаў яму самакат. Міліцыя адпусьціла Табакіна...

«Уладзімір Цімашэнка, — гаворыцца пасьля гэтага ў «Чырвонай Зьмене», — даволі выгадная прыманка ня толькі для Табакіна, але й для іншых жулікаў і прайдзісьветаў. Яны ліпнуць да яго, як мухі да мёду. Жыцьцё гэтага дармаеда, сталага наведвальніка рэстаранаў, чалавека, які навучыўся даволі спрытна карыстацца высокім службовым становішчам бацькі — спрыяльная глеба для таго, каб ад заступніцтва злачынцаў перайсьці да злачынства самому. І Цімашэнка стаўся такім».

Уночы ў парку Горкага ён і двух іншых камратаў аграбілі кагосьці. Папаліся ў міліцыю...

«Але тут, — даведваемся далей з «Чырвонае Зьмены», — здарылася тое-ж, што ня раз адбывалася раней. Варта было аднаму із злачынцаў адрэкамэндавацца Ўладзімерам Цімашэнкам, і яго прыяцеляў адпусьцілі дамоў».

І вось справа маладога бандыты пайшла ў савецкі правасудны апарат. Чытайма: «Некалькі месяцаў пракуратура Ленінскага раёну, а затым пракуратура гораду займаліся справай Уладзімера Цімашэнкі. Выклікаліся дзесяткі сьветак, запоўнены кіпы пратаколаў, здымаліся допыты навет з тых прыяцеляў Цімашэнкі, якія адбываюць цяпер тэрмін зьняволеньня — Унукава й Чырнышова. Неаднаразова пракурор гораду афіцыяльнымі адносінамі запытваў матар'ялы й дакуманты, «закансэрваваныя» аддзеламі міліцыі й гарадзкой управай, але гэтыя матар'ялы ў бальшыні так і ня былі прадстаўлены сьледзтву.»

Неяк, пасьля бадай шасьцімесячнае цяганіны, справу закончылі. Вось два заключныя абзацы з пастановы гарадзкое пракуратуры:

«Хоць у дзеяньнях Цімашэнкі і ёсьць склад крымінальнага злачынства — зробленая ім кража грошай у грамадзянак Дэвойна, Нікіцінай і інш., але ўлічваючы, што гэтае злачынства было зроблена ў 1954 годзе, што Нікіцінай былі зьвернуты грошы (вярнула іх маці Цімашэнкі — Рэд. «Ч. З.»), што Цімашэнка займаецца ў Менскім палітэхнічным інстытуце, у сувязі з чым(?!) прыцягненьне яго да крымінальнай адказнасьці й адданьне пад суд зьяўляюцца нямэтазгодным, — крымінальную справу аб зробленых хуліганскіх дзеяньнях і кражах прыватнай уласнасьці ў грамадзян далейшым вядзеньнем спыніць...

Знойдзены (у запраўднасьці зрабаваны — Р. Л.) 1 ліпеня 1955 году ў парку імя Горкага гадзіньнік маркі «Пабеда» здаць як бесгаспадарны фінансавым ворганам для рэалізацыі ў карысьць дзяржавы».

Владзімірава канчае гэтую жахлівую й агідную гісторыю словамі:

«І самае горшае гэта тое, што людзі, якія займаліся справай Цімашэнкі... разважаюць прыблізна так, як сьледчы гарадзкое пракуратуры тав. Вілько:

— Нічога, пападзецца ён нам яшчэ раз, тады ўсё разам прыпомнім.

Да наступнага, маўляў, здарэньня...»

✳

Апісаны вышэй выпадак бездапаможнасьці савецкага правасудзьдзя супраць разбэшчанага сынка партыйнага бюракрата бадай найлепш характарызуе ўсё бяспраўе й зьдзек, заведзеныя на паняволенай Беларусі расейска-маскоўскім бальшавізмам.

**Р. Л.**

# Крэмлёўскі каляніялізм

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

была сваю, падпарадкоўваючы агнём і гвалтам менш магутных суседзяў у доўгім і крывавым працэсе экспансіі на вялізарнай эўразійскай тэрыторыі.

Згодна з канстытуцыяй, рэспублікі становяць дабраахвотную частку Саюзу, з правам аддзяленьня ад яго. Але што адбываецца, калі яны выяўляюць волю да незалежнасьці, было крывава пакарана ў 1943 годзе, калі савецкі ўрад пастанавіў пакараць пэўныя нацыянальнасьці таму, што іхная ляяльнасьць была падозраная. Чэчэна-Інгуская аўтаномная рэспубліка на Каўказе і Крымска-Татарская аўтаномная рэспубліка былі зьмеценыя з твару зямлі. Іхнае насельніцтва — кажны мужчына, кажная жанчына й дзіцё — было акружанае сакрэтнай паліцыяй і вывезенае ў Сібір. Пазьней рэспублікі гэтыя зьніклі з карты Савецкага Саюзу, а дамы мёртвых і вывезеных былі аддадзеныя Расейцам. Разам з Крымскімі Татарамі, Чэчэнамі ды Інгушамі зьніклі каўказкія Калмыкі, Карачаеўцы і Балкары — гордыя й старыя народы.

Сяньня ціск на гэтых нешчасьлівых зьменшыўся, і іхнае існаваньне ізноў прызнаецца, хоць дахаты яны не вярнуліся. Але кажная нацыянальная мяншыня ў Савецкім Саюзе, пачынаючы ад Казахаў у шырокіх стэпах, і канчаючы Грузінамі або Асэцінамі ў высокіх горах, ведаюць аж задобра, што найменшая адзнака незалежнасьці будзе сустрэтая з Масквы тэрорам — тэрорам кіраваным самым Хрушчовам з усімі ягонымі антыкаляніяльнымі песьнямі. І ўсё-ж мы дазваляем Хрушчову прыкідацца абаронцам паняволеных.

Шмат што зьмянілася ў Савецкім Саюзе, але пакуль нацыянальныя мяншыні і саюзныя рэспублікі не атрымаюць запраўднага права на аддзяленьне, Расея застаецца й надалей найвялікшай каляніяльнай імпэрыяй у сьвеце.

**Эдуард Крэнкшоў**

# Зь беларускага жыцьця

### ПАСЕДЖАНЬНЕ СЭКТАРУ РАДЫ БНР У КАНАДЗЕ

Дзякуючы прысутнасьці Прэзыдэнта БНР сп-ра інж. М. Абрамчыка ў Торонто, 3-га верасьня адбылося ў Беларускім Доме паседжаньне радных БНР зь мясцовага сэктару пры ўдзеле некаторых гасьцей.

Сп-р Прэзыдэнт дакладна і вычарпальна паінфармаваў прысутных аб мэтах палітыкі БНР, цяперашніх дасягненьнях і расказаў шмат цікавага аб працы, праведзенай на міжнародным форуме ў нядаўным мінулым. На шматлікія пытаньні былі дадзены вычарпальныя адказы і адбылася ўсебаковая дыскусія. Мясцовыя сябры выказалі свае думкі і сугэстыі адносна пытаньняў, маючых быць закранутымі на 8-й Сэсіі Рады БНР, што цяпер распачынаецца ў Нью Ёрку. На прапанову актыву ўсіх мясцовых беларускіх арганізацыяў быў кандыдаваны ў радныя БНР сп-р Гэнрык Барановіч.

Сп-р Прэзыдэнт Абрамчык пакінуў Торонто раніцаю 4-га верасьня і выехаў у Нью Ёрк.

**М. К-р**

### БЕЛАРУСКАЯ ПЕСЬНЯ НА КАНАДЫЙСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ВЫСТАЎЦЫ

Штогод у Торонто адбываецца найбольшая на амэрыканскім кантынэнце Канадыйская Нацыянальная Выстаўка, якую наведвае каля трох мільёнаў людзей. На музычным пляцы пад адкрытым небам пры г. зв. «бандшэл» даюць канцэрты розныя аркестры, хоры і пасобныя сьпевакі. Сёлета, зь ініцыятывы і дзякуючы падтрымцы мясцовае найбольшае газэты «Дэйлі Стар», выступала цэлы час з канцэртамі група харыстых і аркестра зь дзяржаўнае радыёстанцыі СіБіСі, група, што кажнае пятніцы перадае «Сонгс оф май піпл» пад музычным кіраўніцтвам сп-ра І. Раманава. У чацьвер 6-га верасьня, калі сп-р Раманаў прэзантаваў усе нацыянальныя групы, бяручыя ўдзел пры радыёперадачах сваіх песьняў, для Беларусаў і для шматлікіх іншых было надзвычайна мілай неспадзеўкай пабачыць і пачуць беларускі дзявочы квартэт, прыгожа апрануты ў нацыянальныя касьцюмы, што прасьпяваў вясёлую беларускую песьню «Марфута». Слухачы, у ліку каля 8,000, узнагародзілі сьпявачак доўгімі воплескамі.

Сам сп-р Раманаў, з походжаньня роджаны ў Канадзе Украінец і выдатны кампазытар, добра паясьніў слухачом, што Беларусы гэта не Расейцы і што ня трэба іх з апошнімі блытаць. Беларусы маюць сваю багатую культуру, гісторыю і традыцыю. Да гэтага часу, дзякуючы стараньням ЗБК і прыхільнасьці сп-ра Раманава, цераз СіБіСі на трансканадыйскай сетцы былі перададзены тры поўгадзінныя праграмы беларускіх народных песьняў, пераважна з нагодаў нацыянальных ці народна-рэлігійных сьвятаў. Гэткія праграмы будуць яшчэ і ў будучыні. А за добрую рэпрэзэнтацыю беларускае песьні і нацыянальнасьці на Канадыйскай Нацыянальнай Выстаўцы сп-ру Раманаву належыцца ад Беларусаў вялікае дзякуй.

**М. К-р**

## УВАГА!

### НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ПЛІТКІ

Беларускі Выдавецкі Аддзел пры Галоўнай Управе Злучанага Беларуска-Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту выдаў другую сэрыю беларускіх патэфонных плітак, насьпяваных хорам ЗБ-АДК пад кіраўніцтвам сп-ра В. Селях-Качанскага і акампаніямэнце сп. сп. Д. Верасава ды П. Нядзведзкага ў студыі «Р. С. А. Віктор» у Нью Ёрку. У гэтую сэрыю ўвайшлі наступныя песьні:

1. **Мы выйдзем шчыльнымі радамі** (нацыянальны гімн) — муз. Тэраўскага;
2. **Падняты родны сьцяг дзяржавы** — апрацоўка — В. Селях-Качанскага;
3. **Хор сялянаў** (з опэры «Кастусь Каліноўскі») — муз. М. Равенскага;
4. **Песьня волі** — муз. В. Селях- Качанскага, словы М. Сяднёва;
5. **Поле, поле** — муз. Д. Верасава, словы М. Кавыля;
6. **Беларусь перадусім** — муз. Стэповіча;
7. **Ой, ня кукуй, зязюленька** — муз. Тэраўскага (солё: К. Яцэвіч);
8. **Ой, ты мароз** — муз. М. Равенскага (солё: К. Яцэвіч);
9. **Бульба** — апрацоўка В. Селях-Качанскага;
10. **Ня рыч, кароўанька** — муз. М. Равенскага;
11. **Сьняжкі белыя, пушыстыя** — апр. В. Селях-Качанскага.

Ветліва просім беларускае грамадзтва падтрымаць наш пачын праз набыцьцё новых плітак, і гэтым самым спрычыніцца да выданьня трэйцяе сэрыі ўвосень 1956 году.

Кошт аднае пліткі — 1 даляр плюс кошт перасылкі й апакаваньня. Камплет плітак — гэта найлепшы падарунак пры кажнай нагодзе. Выпісаць можна у: Mr. M. Sienko, 24 Herman St. South River, N. Y. U. S. A.

**Управа ЗБ-АДК**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St. Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.
**Mr. M. Palashuk,** 33 Chigford St. Fairfield-Melbourne, Vic.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Sčećka,** 19, Place Hoover, Louvain.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mrs. N. Akula,** 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47, Bd de Bezons Sartrouville (S. et O.).
**Mr. Bonifacy Prytycki,** 112, rue d'Alger, Roubais (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**